# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ НКЮ

№ 7. СЬНЕЖАНЬ 1930 г. № 7.

ЗЬМЕСТ



## Чарговыя задачы пракуратуры на наступны квартал.

Работа пракуратуры ў паасобны квартал заключалася ў тым, каб разам і з усёй рабочай клясай і савецкімі органамі пад кіраўніцтвам партыі ўключыцца ў агульна-палітычныя кампаніі і дапамагчы вырашыць тыя задачы, якія стаялі перад усей краінай.

Пракуратура прымала актыўны ўдзел ва ўсіх гаспадарча-палітычных кампаніях ня толькі праз прыцягненьне да адказнасьці тых ці іншых парушыцеляў дырэктыў і законаў адпаведных органаў, але і праз папярэджаньне раду прарываў. Як у цэнтры, так і ў шмат якіх мясцох па важнейшых пытаньнях, як, напрыклад: мабілізацыя сродкаў, рабочае забесьпячэньне, будаўніцтва, былі склікаваны нарады, для высьвятленьня, а затым і зьніштажэньня недахопаў у той ці іншай галіне.

У сучасны момант шмат з тых пытаньняў, на якіх была завострана ўвага ў першым квартале, не перастаюць быць актуальнымі і па сёнешні дзень і пракуратура павінна мабілізаваць сябе для дапамогі ў іх правядзеньні.

Выкананьне прамфінпляну зьяўляецца актуальнай проблемай, якая павінна стаяць у цэнтры ўвагі пракуратуры.

Усялякія прарывы на тым ці іншым вучастку павінны быць вывучаны, праз прыцягненьне для гэтай мэты рабочых брыгад, з тым, каб даведацца, ці ня тоіцца тут якая небудзь шкодніцкая рука, а таксама для змаганьня з безгаспадарнасьцю, нядбайнасьцю, якія зьяўляюцца ворагамі ў выкананьні прамфінпляну.

Колькаснае выкананьне прамфінпляну зьяўляецца зусім невыстарчальным. Партыя і ўрад завастраюць увагу на якасьці прадукцыі і. Пракуратура павінна моцна ўдарыць па тых, хто ня выконвае гэтай важнейшай дырэктывы.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на колькаснае і якаснае выкананьне экспортнага пляну. У некаторых выпадках Пракуратура занялася ўжо гэтым пытаньнем і моцна ўдарыла па тых, хто зрывае нашы экспортныя пляны (Рэчыца), але гэтага яшчэ мала. У шмат якіх выпадках Пракуратура хутка не рэагуе на такія прарывы.

На нарадзе, якая адбылася ў Пракуратуры Рэспублікі па пытаньні экспорту, выявілася, сярод іншых момантаў, і наступнае:

Леспрамгасы не праводзяць здавальняючай загатоўкі і вывазкі экспортных лесаматар'ялаў. Заўважна вельмі значнае асяданьне загатовачнай птушкі на мясцох. Райпо выконвае заданьне поўнасьцю, але-ж замест, таго кабы здаваць яе, згодна дырэктывам, на экспорт, яна перадае ў мясцовыя харчоўні. Ня выконваецца таксама дырэктыва аб здачы бэконных сьвіньней з боку раённых спажывецкіх таварыстваў „Белмяса".

На ўсе гэтыя моманты трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Кампанія па мабілізацыі сродкаў яшчэ ня скончана. Ня гледзячы на рад дырэктыў, у некаторых мяйсцох есьць яшчэ досыць значныя прарывы. Заўважаецца шмат выпадкаў непадмацаваньня сродкамі з боку райсельбанкаў ашчадкас (Касьцюковіцкі раён). Яшчэ да гэтага часу ў шмат якіх раёнах, ня гледзячы на дырэктывы адпаведных органаў і цыркуляры пракуратуры, ашчадкасы нават ня маюць памяшканьні (Рассоны, Бялынічы, Асьвея, Дрыса і інш.). Такія зьявы ня толькі не

Усе гэтыя моманты зьяўляюцца значнымі хібамі ў рабоце Пракуратуры. Ня маючы ніякіх вестак нельга сыгналізаваць перад адпаведнымі органамі аб небясьпечных зьявах ці прарывах на тым ці іншым вучастку.

## Зьнішчым валакіту, бюракратызм няд… працы сьледчы…

XVI-ты Партзьезд УсеКП(б) і XIII Зьезд КП(б)Б паставілі перад рабочай клясай і партыяй чарговую вельмі важную задачу павесьці рашучае змаганьне з валакітай і бюракратызмам ва ўсіх галінах нашага савецкага апарату, як з сур'ёзнай перашкодай у справе сацыялістычнага будаўніцтва і перабудовы сельскай гаспадаркі на калектыўных пачатках.

Пракуратура і сьледчыя органы, як органы пролетарскай дыктатуры, заклікаңы для змаганьня з гэтым злом і для зьнішчэньня яго.

Практыка вывучэньня прайшоўшых праз Пракуратуру Рэспублікі сьледчых спраў, падсудных Вярхсуду, паказваюць зусім адваротнае, што бюракратызм і валакіта ў сьледчым апараце яшчэ „мірна" пакоіцца ў галовах цэлага шэрагу сьледчых і па сёнешні дзень.

Ня гледзячы на тое, што пастанова Ўраду БССР ад 5 верасьня 1930 г. значна скараціла катэгорыю спраў, па якіх павінна праводзіцца папярэдняе сьледзтва, у выніку чаго на сёнешні дзень праз сьледвучасткі праходзіць у месяц ня больш 10 спраў, …ле якасьць апрацоўкі, нажаль, не палепшылася.

Зусім не разгорнута такая палітычна-важная …рава як мабілізацыя грамадзкасьці вакол органаў сьледзтва, стварэньне брыгад альбо камісій садзейнічаньня, а тымчасам гэта бязумоўна павінна прынесьці вялізарную карысьць пры правядзеньні папярэдняга сьледзтва, асабліва па тых справах, якія маюць на данны момант вялікае палітычна-грамадзкае значэньне. Гэта пытаньне завастралася і на кустовых нарадах і ў цыркулярах.

Рад прагледжаных спраў паказвае, што ў сьледчых няма палітычнай чуласьці да тых спраў, якія цяпер, на сёнешні дзень маюць вялікае палітычнае значэньне, і сьледчыя ня выдзяляюць такіх спраў з раду іншых для хутчэйшага правядзеньня па іх сьледзтва.

Наогул сьледзтва вядзецца бясплянава, саматужна „самацёкам", без'ініцыятыўна. Перадапытваюцца сьведкі па некалькі раз, пры тым без карысьці, бо часта паказаньні сьведкаў у сьледчага падаңы ня так поўна, як на дазнаньні. Сьледчы ня імкнецца да таго, каб перад допытам выправіць супярэчнасьці ў паказаньнях сьведак. Напрыклад, Рэчыцкі сьледчы т. Вераксіч не апрацаваўшы такім спосабам паказаньняў сьведкаў падае іх цалкам у абвінавальным заключэньні, пакідаючы такім чынам Пракуратуры і Суду самым разабрацца ў гушчы супярэчнасьцяй. Вядома, што па ўсіх крымінальных справах, асабліва аб контррэвалюцыйных злачынствах (тэр. акт, забойства, падпал) мясцовы агляд мае пераважнае значэньне, тымчасам сьледчыя не выяжджаюць на месца для аглядаў. Таксама сьледчыя, у тых выпадках, калі мясцовыя агляды праведзены органамі дазнаньня з яўнай непаўнатой, нават не імкнуцца папоўніць іх дадатковым аглядам, калі гэта яшчэ ня позна, ці допытам па-

нятых, у вын…
чае справу д…
Сьледчы…
заключэньня…
каб даць пр…
займаюцца т…
супярэчлівымі…
Віцебскага ра…
аб забойстве…
супярэчлівыя…
та аб прычын…
аўтамабіль,—…
паслаў справ…
стытут Навук…
яе, як быццам…
…чэньнем па арт. 7…

Сьледчыя вельм…
ваньне арт. 111 КПК, я…
баковага расьледваньня с…
леньнем абвінаваўчага мата…
тыя акалічнасьці, якія могуць…
даньня абвінавачанага, асабл…
апошнім спасылках. Напрыкла… …ьледчы т. Левін па справе па абвін… …айнэра і нш. па арт. 70 КК не дапытаў… …а важнага сьведку Фейгіна (па спасылцы абвінавачаных).

За апошні час некаторыя сьледчыя прысылаюць справы з кваліфікаваньнем абвінавачваньня па арт. арт. 6—70 КК. З прычыны таго, што гэтыя справы як-раз маюць усе прыметы злачынстваў, прадугледжаных арт. 70 КК, зусім зьяўляецца незразумелым, навошта сьледчым спатрэбілася дапасоўваць яшчэ і арт. 6 КК. Гэты арт. дапасоўваецца тады, калі даннае сацыяльна-небясьпечнае дзеяньне, па сваіх прыметах, цалкам не падыходзіць ні да аднаго з пералічаных у крымінальным кодэксе злачынстваў, але зьяўляецца па свайму зьместу **найбольш падобным** да аднаго з гэтых злачынстваў. Трэба думаць, што сьледчыя ў заўважаных выпадках дапасоўвалі арт. 6 КК, каб падкрэсьліць невыстарчальнасьць улік, падобна да таго сьледчага, які ў абвінавальным заключэньні піша, што абвінавачваныя „відавочна" ўчынілі тэрорыстычны акт.

Абвінавальныя заключэньні складаюцца і па сутнасьці і з тэхнічнага боку з істотнымі парушэньнямі правіл Кр. Прац. Кодэксу.

1) Замест таго, каб у апісальнай частцы абвінаваўчага заключэньня паказаць істотныя акалічнасьці справы ў іх лёгічнай паступовасьці са спасылкай на доказы (паказаньне сьведак Іванова а. с. 5, пратакол агляду, ці экспэртызы а. с. 10), у абвінавальнае заключэньне ўносяцца цалкам паказаньні ўсіх сьведкаў (сьледчы Вераксіч).

2) Абвінавальныя заключэньні павінны быць строга об'ектыўнымі, г. зн. выкладацца тыя акалічнасьці справы, якія служаць падставай для адзінага вываду—абвінавальнага пункту, а таму ўся-

...кт",
...праве
...ушк, але

...паказваць
...злачынства
...м сьціслым
...даюцца ко-
...ства. Сьлед-
...усіх паказа-
...оку, вельмі
...ства, амаль
...а заключэ-
...аёну т. Бер-
...нанясеньні
...цу, так вык-
...тивным уча-
...власти, руко-
...Красная Нива"
...днего, участием в
...кова, разоблачением
...азвалу и связи Актюкова
...ни председательствования
...заимопомощи, результатом
..."

...да абвінавальных заключэ-
ньнях ... аў нярэдка запісваецца шмат
непатрэ... аў, якіх толькі дарма цягаюць
па судох.

5) Сьледчы Парыцкага раёну Глікман не зьмяшчае ў абвінавальным заключэньні такога істотнага моманту, як тлумачэньні абвінавачаных.

6) Сьледчы Халопеніцкага раёну Зальцман складае абвінавальнае заключэньне і на таго абвінавачанага, справа ў адносінах якога прыпынена з-за неадшуканьня яго, замест таго, каб толькі адзначыць, што справа прыпынена.

7) Сьледчы гор. Воршы Антонаў зьмясьціў у сьпіс сьведкаў гр. гр Папова і Чуднога, не склаўшы пастановы аб спыненьні справы ў адносінах іх, — раней яны былі прыцягнуты да справы ў якасьці абвінавачаных.

Вось факты, якія гучна крычаць аб недарэчнасьцях і патрабуюць напружанасьці ўсіх сіл з нашага боку для зьніштажэньня іх.

Тут таварышы скажуць, чаму я адзначаю толькі хворыя бакі сьледчай работы, няўжо ў БССР няма добрых прыкладаў?

Так, таварышы, ёсьць прыклады значна лепшых адносін і ўсе адзначаныя вышэй выпадкі нельга аднесьці агулам да ўсіх працоўнікоў сьледзтва, але ў большасьці такія недарэчнасьці ёсьць і аб іх трэба цяпер крычаць. Праўда, мы маем шмат таварышоў сьледчых з нізкай агульнай кваліфікацыяй, над чым НКЮ трэба задумацца каб у бліжэйшы час ім даць магчымасьць падкаваць сябе. (напрыклад, арганізаваць каротка-тэрміновыя курсы, праз якія прапускаць гэтых таварышоў), а рэшта павінны паднацісьнуць на сябе як мага, бо далей так немагчыма, а вуч. пракуроры павінны з свайго боку паварушыцца і памагчы сьледчы

**Пецюкевіч.**

## Пра справы жыльлёвыя.

Савецкія законы імкнуцца забясьпечыць кожнаму працоўнаму магчымасьць бесьперашкодна карыстацца данай яму ў законным парадку жылой плошчай. Так, арт. 173 Грамадзянскага Кодэксу дае поўны пералік выпадкаў, калі дагавор найму можа быць скасаваны да тэрміну; далей, на падставе арт. 174 таго-ж кодэксу Урадам БССР выдана спэцыяльная пастанова аб выпадках, калі дапускаецца адміністрацыйнае высяленьне і аб парадку, у якім такое высяленьне робіцца; ёсьць таксама спэцыяльная пастанова аб выпадках, калі дапускаецца прымусовае пацясьненьне, і. г. д.

Словам, закон у поўнай меры дакладна ўстанаўляе, што грамадзяніна можна прымусова высяліць альбо пацясьніць толькі пры пэўных умовах і ў пэўным парадку. Але, на вялікі жаль, на мясцох, мусіць, ні чытаюць ні Грамадзянскага Кодэксу, ні спэцыяльных законаў пра прымусовае высяленьне і пра пацясьненьне, а ў выніку гэтага робіцца шмат нарушэньняў гэтых законаў у розных кірунках: грамадзяне часта высяляюцца бяз усякіх прадугледжаных у законе падстаў, альбо высяляюцца ў адміністрацыйным парадку тады, калі пытаньне пра высяленьне можа быць вырашана толькі судом, альбо робіцца прымусовае перасяленьне з аднэй кватэры ў другую, з аднаго дому ў другі, што зусім не прадугледжана ніякім законам.

Каб папярэдзіць няправільнае ўжываньне законаў аб прымусовым высяленьні і пацясьненьні, НКЮ і НКУС быў выдан спэцыяльны цыркуляр № 43 ад 5/X-30г. (Бюлетэнь СНК БССР 1930г. № 21, п. 168), які дае неабходныя паказаньні па галоўных пытаньнях, зьвязаных з высяленьнем і пацясьненьнем. Але і гэты цыркуляр мала памог справе, і мы бачым, што справы жыльлёвыя ўсё яшчэ зьяўляюцца балючым мейсцам.

Мэта гэтага артыкулу даць па магчымасьці кароткае і яснае тлумачэньне, калі і пры якіх умовах грамадзянін можа быць пазбаўлен той жылой плошчы, якую ён займае.

* * *

Адным з самых частых нарушэньняў чыннага законадаўства зьяўляецца прымусовае перасяленьне грамадзян з аднэй кватэры ў другую, альбо, нават, з аднаго дому ў другі. Асабліва часта такое перасяленьне ўжываюць жыльлёва-арэндныя кааперацыйныя таварыствы ў адносінах да сваіх членаў і да іншых жыльцоў арэндаваных імі дамоўладаньняў, і робяць яны гэтае перасяленьне то праз суд, то, нават, у адміністрацыйным парадку.

У гэтых выпадках добра, калі справа дойдзе да суду: суд ведае, і ва ўсякім разе павінен ведаць, што ЖАКТ разьмяркоўвае паміж сваімі членамі толькі вольную ад жыльцоў плошчу, але ня мае права даную ўжо сваім членам і жыльцам плошчу далей замяняць на другую бяз згоды на тое жыльцоў. Быў у свой час выданы часовы закон ад 15/VI 29 г.*), якім у пэўных выпадках дапускалася

---

*) Пастанова СНК БССР ад 15/VI-29 г. „пра пацясьненьне і перасяленьне ў муніцыпылізаваных і прыватных дамох", З. З. БССР 1929 г. № 19 п. 115 і № 32, п. № 190).

**прымусовае перасяленьне**, а таксама ўсяленьне новых жыльцоў у кватэру з лішкавай плошчай, хоць бы гэтай лішкавай плошчы і нельга было вылучыць як паасобны пакой. Але трэба помніць, што тэрмін, на які гэты часовы закон быў выданы, даўна скончыўся, **і самы гэты закон страціў сваю сілу**, а таму неабходна лічыць, што ні ў судовым, ні ў адміністрацыйным парадку **нельга прымусова перасяляць грамадзяніна з аднэй кватэры ў другую і нельга прымусова засяляць лішкавую плошчу, калі няма магчымасьці выдзяліць гэту ю лішкавую плошчу ў выглядзе паасобнага пакою**, які мае асобны выхад на вуліцу беспасрэдна альбо праз памяшканьне агульнага карыстаньня.

Ні ЖАКТ"ы, ні камунальныя аддзелы, ні тым больш прыватныя домаўласьнікі ня маюць, значыцца, права прымушаць сваіх жыльцоў да перасяленьня. Наадварот, жыльцы, калі яны рабочыя альбо служачыя, маюць права на падставе арт. 7 закона за 23/V 1928 г. *) абменьвацца ў межах аднаго альбо розных гарадоў кватэрамі, што ўваходзяць у муніцыпальны жыльлёвы фонд і эксплёатуюцца мясцовымі саветамі беспасрэдна альбо праз здачу ў арэнду ЖАКТ-ам. Значыцца ў такіх дамох ні ЖАКТ, ні камунальны аддзел **ня могуць, забараніць** рабочым альбо служачым абмяняцца кватэрамі ці пакоямі, калі гэта выклікаецца зьменаю месца іх працы. Што датычыць дамоў, якія знаходзяцца пад ведамам прадпрыёмстваў прамысловасьці і транспарту, то тут на абмен кватэрамі патрэбен дазвол адміністрацыі прадпрыемства.

* * *

Вышэй мы ўжо казалі, што, калі ў кватаранта ёсьць лішкавая жылая плошча і калі ён ня хоча самапацясьніцца-узяць, напрыклад, па свайму выбару, жыльца, які скарыстаў-бы лішкавую плошчу, то гэтую лішкавую плошчу можна адабраць прымусова. Калі ў кватаранта ёсьць як мы казалі, асобны пакой, то можна адабраць гэты пакой, абы асноўному кватаранту заставалася плошча, ня менш нормы. Калі-ж такога пакою няма, але яго можна зрабіць праз перабудову кватэры і праз перараз'меркаваньне плошчы паміж пакоямі, то кватарант ня мае права забараняць такую перабудову, устаноўку, напрыклад, сьцен альбо перагародак.

Прымусовае адабраньне лішкавага пакою робіцца **ў адміністрацыйным парадку**, калі самы дом замацаваны за якой-небудзь установай ці прадпрыемствам. **)

Калі жа пацясьненьне трэба рабіць у незамацаваных дамох, то орган, які распараджаецца домам (напрыклад кіраўніцтва ЖАКТу), альбо домаўласьнік павінен падаць у суд іск альбо аб адабраньні ад наймальніка лішкавага пакою альбо аб дапушчэньні да перабудовы памяшканьня.

Каб паканчыць з пытаньнем аб прымусовым пацясьненьні, напомнім, **што ніякае прымусовае пацясьненьне не дазваляецца** ў дамох, на якія заключаны дагаворы аб праве забудоўкі, у дамох, належачых на праве ўласнасьці жыльлёва-будаўнічым каапэрацыйным таварыствам, *), а таксама ў дабудованых, перабудаваных і новых будынках, пабудаваных на падставе закону пра заахвочваньне да жылішчнага будаўніцтва (З.З. БССР 1930 г. № 7, п. 44).

* * *

Не гледзячы на тое, што законам досыць дакладна вызначаны ўмовы і парадак прымусовага высяленьня жыхароў, вельмі часта парушаюцца і гэтыя ўмовы, і парадак высяленьня. Так напрыклад арт. 8-а пастановы „пра мерапрыемствы па жылішчнай гаспадарцы" (гл. З.З. БССР 1930 г. № 15 п. 107). пастанаўляе, што асобы **непрацоўных катэгорый павінны быць выселены** са ўсіх памяшканьняў, якія ўваходзяць у камунальны фонд, г. зн. і з памяшканьняў муніцыпалізаваных дамох, і з тых памяшканьняў прыватных дамоў, якія на падставе спэцыяльнага закону**) выдзяляецца ў камунальны фонд. Пры гэтым высяленьне гэта робіцца ў адміністрацыйным парадку. Вось тут і пачынаюцца памылкі. Часта забываюць, што закон гаворыць аб асобах **непрацоўных** катэгорый, а не аб пазбаўленых выбарчых праў. Факт пазбаўленьня выбарчых праў сам па сабе яшчэ не дае падставы для прыстасаваньня да данае асобы вышэйпаказанай пастановы аб абавязковым высяленьні ў адміністрацыйным парадку. Тут трэба падкрэсьліць,***) што, калі жілец рабочы ці служачы, то на падставе вышэйпаказанага арт. 8а ён ня можа быць выселены ў адміністрацыйным парадку **толькі таму, што ён пазбаўлен выбарчых праў**, калі няма яшчэ іншых прадугледжаных законамі падстаў.

Калі камунальны аддзел усё-ж такі захоча высяліць з памяшканьня, якое знаходзіцца ў беспасрэдным яго распараджэньні, жыльца, пазбаўленага выбарчых правоў, то гэта ён можа зрабіць не ў адміністрацыйным парадку, а **праз суд** у агульна-іскавым парадку; пры гэтым суд павінен прытрымлівацца норм Грамадзянскага Кодэксу: значыцца, калі жылец займае кватэру па дагавору на пэўны тэрмін, то дагавор можна скасаваць і жыльца высяліць да сканчэньня тэрміну дагавору толькі ў выпадках, паказаных у арт. 173 Грамадзянскага Кодэксу; калі-ж дагавору няма альбо тэрмін у дагаворы ня вызначаны, то высяленьне магчыма, але пры ўмове, што камунальны аддзел уручыў кватэранту папярэджаньне ў тэрмін, паказаны ў арт. 157 Грамадзянскага Кодэксу і ва ўвазе да яго.

Такім чынам, калі з памяшканьня, што ўваходзіць ў камунальны фонд, высяляецца **непрацоўны**, то суд не павінен і прымаць такіх заяў да разгляду, бо непрацоўныя высяляюцца ў адміністрацыйным парадку.

Робяцца памылкі яшчэ і ў тым сэнсе, што разам з непрацоўным, які па закону падлягае высяленьню, выкідаюць і тых членаў яго сям"і, якія маюць самастойны заработак і не належаць да катэгорый непрацоўных; **такія асобы маюць самастойнае права на жылую плошчу** і ня могуць быць гэтага права пазбаўлены толькі таму, што з імі пражываў непрацоўны, якога трэба высяліць. Не-

---

*) Пастанова СНК БССР „пра мерапрыёмствы па жылічнай гаспадарцы" (З. З. БССР 1928 г. № 19, арт. 192 і 1930 г. № 15, п. 107).

**) гл. Пастанову ЦВК і СНК БССР за 15/IX-1927 г. „аб прымусовым пацясьненьні ў дамох" (З.З. БССР 1927 г. № 36, арт. 190 і 1930 г. № 7, п. 45.).

*) З.З. БССР 1930 г. № 7 п. 45

**) „Пра перадачу пад загад камунальных аддзелаў часткі жылой плошчы немуніцыпалізаваных будынкаў" (З.З. БССР 1925 г. № 9, арт. 79; 1926 г. № 21, арт. 79; 1928 г. № 19, арт. 187 і 1930 г. № 33 п. 214).

***) гл. п. IX цыркуляра НКЮ і НКУС № 43 (Бюлетэнь СНК БССР 1930 г. № 21 п. 168).

працоўны высяляецца, а члены яго сям'і ў такім разе высяленьню не падлягаюць.

Разьмеры артыкулу не дазваляюць нам спыніцца на другіх выпадках, калі жыльлёвыя справы ўзьнікаюць і вырашаюцца няправільна. У наступным нумары бюлетэню мы разьбяром і іншыя выпадкі. Цяпер-жа толькі падкрэсьлім, што ні суд, ні камунальныя аддзелы ні ў якім разе ня могуць пашыраць пераліку выпадкаў, у якіх па закону дазваляецца прымусовае высяленьне. Высяляць можна толькі тады і толькі таго, каго і калі гэта дазволена і толькі ў тым парадку, які ўстаноўлен законам для данага выпадку.

**Б. Ватацы.**

# Больш увагі па рэагаваньню на газэтныя нататкі.

Правядзеньне ў жыцьцё лёзунгу самакрытыкі ў змаганьні з бюракратызмам, валакітай, скажэньнем клясавай лініі і недахватамі ў дзяржаўным апараце, памагло выявіць рад агідных зьяў з боку некаторых устаноў і паасобных работнікаў. Заўсёды сігналізатарам меўшыхся недахватаў быў наш друк.

Ня гледзячы на важнасьць такога пытаньня, як скарыстаньне допісаў для выяўленьня хваравітых зьяў і рэагаваньне на іх, апошнім рэйдам пры ўдзеле брыгад выяўлен рад брыдотных зьяў у розных установах раёну і прадпрыемствах. Былі выпадкі, калі нататкі ляжалі цэлыя месяцы без рэагаваньня, а некаторыя зусім былі згублены; самыя допісы перадаваліся для высьвятленьня тым асобам, на якіх яны пісаліся, што выклікала затым ганеньні на рабселькораў, абвяшчаліся прозьвішчы рабселькораў і г. д.

Ня лепш была праца ў некаторых пракурорскіх вучастках.. У той час, як гэтаму пытаньню надавалася вялікая ўвага прокурорскаму нагляду, як пастановамі ЦКК РСІ, так і дырэктывамі Пракуратуры Рэспублікі, але пракуроры недастаткова зьвярталі на гэта ўвагі, ня было сталага вучоту нататкам і допісам, якія непасрэдна накіроўваліся вучастковай пракуратуры, а калі і даручалася расьледваньне міліцыі або сьледчаму, дык часамі гэта цягнулася па 10-12 месяцаў, а адказу ўсё-ж такі ня было.

Справа канчалася тым, што пасылаліся напамінкі; нагляду за ўстановамі, як яны рэагуюць на допісы амаль зусім нябыло. Вінаватыя ў валакіце і ігнараваньні допісаў не прыцягваліся да адказнасьці, а рэдакцыі газэт аб выніках рэагаваньня не паведамляліся.

Заўважалася таксама і тое, што б. акруговыя пракуратуры зьяўляліся перадавальнымі інстанцыямі яны падчас, і беспадстаўна, перасылалі допісы другім інстанцыям, а пасьля ліквідацыі акруг часткова перасылалі іх вучастковым пракурорам-часткова проста „палажылі ў архіў". Яшчэ на сёнешні дзень есьць больш 20 допісаў, пасланых Пракуратурай Рэспублікі вучастковым пракурорам, пагэтых допісах мінулі ўжо ўсе тэрміны выкананьня, але Пракуратура Рэспублікі ня мае ніякіх вестак, што па іх зроблена.

Падаю некаторыя прыклады:

1) Пракурору Мазырскай акругі пасланы допіс газэты „Сав. Беларусь" ад 28/IV-30 г. з просьбай паведаміць аб выніках высьвятленьня і аб мерах прынятых Пракуратурай для зьнішчэньня недахватаў, паказаных у допісе. Адная да гэтага часу адказу ніякага няма, ня гледзячы на 2 напамінкі вучастковаму пракурору тав. Кіпарысаву.

2) Яму-ж паслана 6 VII і 17/VII 30 г. даручэньне аб расьследваньні допісу, зьмешчанага ў газ. „Зьвязда" ад 13 VII 30 г. аб скрыўленьні клясавай лініі, з прапановай інфармаваць Пракуратуру Рэспублікі. Адная, да гэтага часу ніякага адказу няма:

3) Пракурору Віцебскай акругі быў пасланы допіс „На словах гавораць" 23/IV-30 г. для расьледваньня, а затым зроблены напамінкі 27/V, 5/VIII і 3/X і толькі Гарадзкой Пракуратурай гэты допіс быў пасланы 21/X-30 г. Сеньненскаму вучастковаму пракурору, які, аднак, дагэтуль нічога не паведаміў, хоць у сваю чаргу атрымаў напамінкі ад Пракуратуры Рэспублікі.

4) Слуцкаму Пракурору 15/IX г. г. даслана нататка газ. „Зьвязда" „Належыць зьвярнуць увагу" з прапановай тэрмінова расьледваць і вынікі паведаміць Пракуратуры Рэспублікі. Зроблены напамінкі 25/IX, 24/XI і 4/XII, аднак да гэтуль адказу няма.

5) Вучастковаму Пракурору Каханаўскага р-ну 13/X 30 г. даручана ў 3 дзённы тэрмін праверыць, чаму сьледчы 5 га вучастку б. Аршанскай акругі непаведамляе рэдакцыі „Гудок" на пасланы яму 15 мая апошні допіс для расьледваньня. Зроблены тры напамінкі, аднак да гэтага часу адказу няма. тымчасам, як ў той-жа газэце быў зьмешчан другі артыкул пад назвай „Пракурорскі марынад" і рэдакцыі прышлося зьвяртацца да Пракуратуры Вярхсуду СССР.

6) Гэтаму-ж пракурору быў пасланы допіс „Аб ганеньнях на рабкора" для расьледваньня, з прапановай увесь матар'ял паслаць у Пракуратуру Рэспублікі. Ня гледзячы на гэта прайшло больш 4-х месяцаў і ніякага адказу ад пракурора няма.

Ня лепш справа ў Бабруйску, Менску і іншых вучастках. У Бабруйску, выяўлена брыгадай, пасланыя допісы б. Акрпракуратуры, зусім згублены. У канцы жніўня 1930 году пасланы допіс пры № 8989 для высьвятленьня-адказу няма.

Такіх прыкладаў можна было-б падаць яшчэ больш, але мы лічым што і гэтыя характарызуюць тую работу, якая праводзіцца па рэагавньню на допісы.

Пракуратурай Рэспублікі ў сваім паўторным загадзе ад 11/V-30 г. за № 13 прапанавалася зьвярнуць асаблівую ўвагу на рэагаваньне па газэтных допісах і таксама давалася ўказаньне, завесьці сталы ўлік правяраць, як праводзіцца расьледваньне па іх і імфармаваць Пракуратуру Рэспублікі. Трэба сказаць што гэта ня выконвалася, належнай праверкі рэагаваньня ня было, ня было таксама ўліку спраў, узбуджаных супроць асоб, ігноруючых іх. На сёнешні дзень невядома, колькі і якіх асоб прыцягнута да адказнасьці за валакіту пры расьледваньні нататак, якія перададзены суду справы па нататках і як яны вырашаны ў судах. Частка судова-сьледчых і пракурорскіх работнікаў нядбайна адносілася да гэтага важнага пытаньня, чым шкодзілі правядзенью ў жыцьцё лёзунгу самакрытыкі. Так і канстантуе ў сваей пастанове ЦКК РСІ аб выніках рэйду рэагаваньня на рабселькораўскія нататкі

У абежніках НКЮ за № 2225 і 13-29 г. дакладна сказана, якія тэрміны для разгляду і рась-

ледваньня нататак, якія прыняць меры для кантролю і ўліку іх, але гэта, аднак, многімі таварышамі мусіць зусім не ўзята пад увагу, а ў гутарцы некаторыя вучастковыя пракуроры гавораць што ім невядома ні пастанова ЦКК РСІ ні абежнікі НКЮ па гэтым пытаньні. Гэта сьведчыць што з боку тых таварышоў, якія няведаюць дырэктыў па рэагаваньню на допісы, ня было ніякай зацікаўленасьці ў тым, каб выконваць дырэктывы Партыі па разгортваньню самакрытыкі.

Мы лічым, што выдаваць новых абежнікаў па гэтым пытаньні няма ніякай патрэбы, але, калі ёсьць такія выпадкі, што ў вучастковых пракуратурах іх няма, а можа яны б. акруговымі пракуратурамі не рассылаліся ці зданы ў „архіў", дык трэба будзе Пракуратуры Распублікі даслаць іх кожнаму вучастковаму пракурору для кіраўніцтва, з паказаньнем новых мэтадаў вучоту. З другога боку, лічым неабходным паказаць, каб пры выкананьні ранейшых указаньняў, як ЦКК РСІ, так і Пракуратуры Рэспублікі, захоўваліся-бы поўнасьцю тэрміны і парадак рэагаваньня, каб у кожнага вучастковага пракурора быў сталы нагляд за праходжаньнем расьледваньня і вынікамі вырашэньня пытаньня па нататках у такім кірунку, каб можна было заўсёды своечасова рэагаваць на няправільнае вырашэньне тых ці іншых органаў, рэагуючых на нататкі.

Для лепшага самакантролю лічым мэтазгодным, каб вучастковыя пракуратуры прыцягвалі для праверкі рэагаваньня на допісы грамадзкасьць з рабселькораў, працаўнікоў рэдакцый раённых, насьценных і іншых газэт. Пажадана таксама, каб такую-ж самаправерку па ініцыятыве Пракуратуры і дагаворансьці з Рай РСІ рабілі раённыя ўстановы, прадпрыемствы, а таксама і сельсаветы. Гэтая самаправерка павінна паказаць якія матар'ялы бязумоўна неабходна мець вучастковым пракурорам для таго, каб належным чынам інфармаваць Пракуратуру Рэспублікі, а таксама, каб своечасова выпраўляць на месцы магчымыя недарэчнасьці. Да сёнешняга дня пытаньне вынікаў рэагаваньня на паасобныя допісы вучастковымі пракурорамі мала асьвятлялася ў друку; гэтую зьяву трэба лічыць ненармальнай, бо вынікі нашых допісаў якія пасылаюцца рабселькорамі, апошнім невядомы, што дрэнна адбіваецца на зацікаўленнасьці іх у далейшай працы.

Для зьліквідаваньня паралелізму ў працы па рэагаваньню на допісы, зьмешчаныя ў газэтах, у раёне Пракурорам трэба заўсёды мець сувязь з РайРСІ, з якімі дагаварвацца па пытаньню расьледваньня і рэагаваньня на тыя ці іншыя допісы.

У Пракуратуры Рэспублікі ёсьць дагаворанасьць з Бюро расьледваньняў рэдакцый газэт аб тым, каб апошнія дасылалі допісы, якія яны ня друкуюць у газэтах, непасрэдна тым органам якія павінны рэагаваць на гэтыя допісы, а калі неабходна расьледваньне, тады пасылаць органам дазнаньня, сьледства і пракурорам, калі гэта неабходна непасрэднае іх умяшацельства. Аб гэтым трактуе і пастанова ЦКК РСІ.

У Пракуратуры Рэспублікі ў сучасны момант вызначана адказная асоба па газэтным допісам, на якую ўскладзены абавязкі рэагаваньня на допісы, а таксама артыкулы, зьмешчаныя ў цэнтральных газэтах Саюзу і цэнтральных газэтах БССР, у якіх закранаецца раён. кіраўніцтва, а астатнія артыкулы ў цэнтральных газэтах БССР і на артыкулы, зьмешчаныя ў мясцовых газэтах-павінны рэагаваць вуч. пракуроры.

Пажадана каб вуч. пракуроры на падставе маючыхся матар'ялаў на мясцох і асабістай практыкі ў працы, выказалі б сваю думку на старонках Бюлетэню і мэтады аб далейшай працы па рэагаваньню на допісы.

УВАГА: Пры двух дэкадных сводках неабходна даць наступныя весткі:

1) Колькі допісаў паступіла за справаздачны тэрмін. У паасобку ад газэт па БССР і газэт па СССР.

2) Колькі з іх паслана на расьледваньне і колькі з астатніх спраў паслана ў суд як пацьвердзіўшыяся.

3) Колькі прагледжана спраў у парадку нагляду па допісам і колькі прынесена пратэстаў.

4) Колькі допісаў скончана за дэкадны тэрмін. Указаць допісы, якія ня скончаны больш м-ца.

5) Колькі ўзьнята спраў за ганеньне на рабселькораў і грамадзкіх працаўнікоў за самакрытыку, таксама паказаць хто абвінавачваецца.

**Чарлёнак.**

## Падрыхтоўка да вясеньняй пасеўнай кампаніі

З набліжэньнем вяснова-пасеўнай кампаніі распачынаецца кампанія ачысткі насеньня.

Пракуратуры і нарсудам неабходна зьвярнуць усю сваю ўвагу на пасьпяховасьць яе правядзеньня. Трэба прасачыць за ўстановамі і арганізацыямі (земчастка, РВК, каапсаюз, райкалгассаюз), якія павінны кіраваць кампаніяй, а іменна; каб своечасова былі накіраваны на вёскі і калектывы абозы ачысткі насеньня, праверана спраўнасьць іх. Ёсьць выпадкі, калі прыступаюць да працы, а абозы ачысткі насеньня не адрамантаваны і нават невядома, дзе яны знаходзяцца. Наогул, такіх абозаў у раёне абмежаваная колькасьць, а для пасьпяховага правядзеньня кампаніі ачысткі насеньня трэба дабіцца, каб абозы працавалі з поўнай нагрузкай і ў начны час. Каб ня мець такіх выпадкаў як у мінулыя гады, калі якая машына папсуецца, то яна выбывае з строю да наступнай кампаніі, трэба зараз-жа наладзіць гэту справу так, каб папсаваная машына зараз-жа адрамантавалася. Побач з гэтым трэба зьвярнуць увагу на склады, дзе хаваць насеннае збожжа. З прычыны таго, што ў гэтым годзе ўборцы і абмалоту збожжа перашкаджалі дажджы і збожжа ў склады засыпалася сырым, то ўжо ёсьць выпадкі, што збожжа пачынае псавацца.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на ахову складаў; яны ні ў якім разе не павінны заставацца ў такім становішчы, у якім знаходзяцца ў сучасны момант, бо з набліжэньнем пасеўкампаніі варожы элемэнт пачынае рабіць сваю справу, каб перашкодзіць пасьпяховасьці праходжаньня пасеў-кампаніі.

Каб большым посьпехам правесьці веснавую пасеўкампанію зараз-ж трэба прасачыць за арга-

нізацыямі, якія павінны забясьпечыць нехапаючым насеньнем, каб не паўтараліся леташнія выпадкі, калі насеньне прысылалася тады, калі мінуў тэрмін сяўбы, альбо пасылалі ў той альбо іншы раён насеньне, якога раён сам мае лішкі, у той час, як іншыя раёны ў гэтым насеньні адчувалі вялікую патрэбу.

Сваячасовасьць збору вестак на нехапаючае насеньне ў насельніцтва і сваячасовая дасылка яго зьяўляецца вельмі важным для пасьпяховага правядзеньня веснавой пасеўкампаніі.

Фіткевіч.

## Змаганьне з лятунствам.

Весткі з НКЗ кажуць пра ўсё больш моцныя выпадкі эпізоцыі на тэрыторыі БССР, асабліва лютуе чума сярод сьвіней. Тымчасам барацьба з гэтым злом падрывае мерапрыемства партыі і ўлады па жывёла і сьвінагадоўлі. Вэтпэрсанал на мясцох ня чула адносіцца да гэтага важнейшага пытаньня жывёлагадоўчай і мясной праблемы, а некаторыя з іх, прозьвішчы якіх ніжэй пералічаны, аднесьліся да сваёй працы і абавязкаў амаль па шкодніцку, інакш нельга кваліфікаваць учынкі ўрачоў, якія кідаюць самавольна свае вэтвучасткі ў самы адказны час змаганьня з эпізоцыяй, для таго, каб больш выгадна і лепш матар"яльна ўціснуцца ў якое-небудзь цёпленькае месьцейка. Вось яны: 1) Вэтурач Бараноўскі П.К. самавольна кінуў Любаньскі раён, ня здаў пункту, паступіў на Кашынскую станцыю пад Масквой. 2) Ермаловіч Н. вэтурач Хвойніцкага раёну, таксама самавольна, ня здаўшы вучастку, паступіў ў Вэтснабпром у Маскву. 3) Курыловіч, вэтурач Узьдзенскага раёну, ня здаў вучастку, самавольна выехаў. 4) Вэтурач Ордзінбогер Ніна самавольна пакінула вэтвучастак б. Бабр. акругі, прыстроілася ў Маскоўскай вобласьці. 5) Вэтурач Пратасэвіч і яго жонка вэтурач Памыкалава, абодва самавольна пакінулі Старадарогскі раён і выехалі ў Астрахань. Гэта, вядома, ня ўсе, есьць урачы, якія проста адмаўляюцца прыняць удзел у барацьбе з эпізоцыяй, адмаўляюцца рабіць прышчэпкі, што проста зьяўляецца крымінальнымі ўчынкамі.

Вэтурачы: Філіпенка Барысаўскага раёну, Гурэвіч г. Магілева, Падошкін г. Полацку, Кузьмінова Высочанскага раёну, Круглікаў Нова-беліцы, Майсеенко Рагачэўскага р. даведаўшыся аб тым, што іх перадалі ў ВТПО для прышчэпак у сацыялістычным сэктары, паўцякалі хто-куды, альбо адмовіліся зьявіцца на мейсца працы. Вось малюнак шкодніцкіх адносін некаторых урачоў да сваіх абавязкаў. Тымчасам ніхто з пракурораў пералічаных раёнаў ня прыняў ніякіх захадаў да прыцягненьня злачынцаў да адказнасьці, больш таго, нават сыгналізацыі аб такім становішчы і то ня была з іх боку.

Адчуваецца, што гэта галіна працы не закранула нашых пракурораў на мясцох, тады, калі важнасьць і значэньне яе зразумела, здаецца, для ўсялякага.

## Больш увагі прававо прапагандзе.

Бурны рост сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і вёсці патрабуе ад судова-сьледчых і пракурорскіх органаў неадкладнай перабудовы і перагляду мэтадаў масавай работы па папулярызацыі савецкага законадаўства і па прававой асьвеце.

Трэба сазнацца, што яшчэ і па сучасны час прававая работа праводзіцца намі недастаткова поўна і недастаткова арганізавана і што работа гэта працякае ад выпадка да выпадку, без пляну. Праўда, пляны ўкладаюцца, але даволі часта яны парушаюцца таму, што мы не заўсёды ўвязываем іх з запатрабаваньнямі палітычных кампаніяў.

Дзеля палепшаньня работы па прававой асьвеце Пракуратура Рэспублікі ў сярэдзіне мінулага году арганізавала Бюро Прапаганды права. Гэтае бюро сканструіравалась з прадстаўнікоў судова-пракурорскіх органаў (Пракуратура, Вярхсуд, Калектыў Абаронцаў) і прадстаўнікоў арганізацый, зацікаўленых у правядзеньні масавай культурна-асветнай работы (ЦСПСБ, Наркамасьветы, Белкалгасцэнтр). Яснаўной сваей мэтай Бюро Прапаганды паставіла ўнядрэньне ў шырокія колы працоўных рэвалюцыйнай законасьці пазнаеміць шырокія масы з існуючамі законамі, маючымі шырокае значэньне і выхоўваньне юрыдычна-граматнага актыву. Трэба адзначыць, што Бюро ўдалось разгарнуць работу і дабіцца некаторых посьпехаў у гэтым пытаньні. Былі праведзены гутаркі па радыё на наступныя тэмы: Аб льготах чырвонаармейцам і іх сем"ям, аб задачах органаў Юстыцыі ў сувязі з чарговымі задачамі Партыі і Ўлады, аб прыкладным статуту с/г. арцелі і інш. Даручана аднаму з сяброў бюро складаньне, зборніка дзейнічаючага законадаўства па калгаснаму будаўніцтву, які павінен зьявіцца настольнай кнігай кожнага калгасьніка. Гэты зборнік у хуткім часе ўжо здаецца ў друк. Быў намечан шэраг мерапрыёмств па разгортваньню прававой работы ў клюбах і чырвоных кутках і непасрэдна на прадпрыёмствах. Адным словам, былі прыняты меры каб прыдаць гэтай рабоце плянавасьць і сыстэматычнасьць.

Зусім зразумела, што стварэньне Бюро Прапаганды права ў цэнтры зьяўлялась толькі частковым вырашэньнем задачы. Каб разгарнуць эту работу ў раёнах была прызнана неабходным стварыць раённыя Бюро Прапаганды пры камерах вучастковых пракурораў, а там дзе гэткіх няма - пры народных судах. З гэтай мэтай ва ўсе раёны была разаслана інструкцыя аб задачах бюро, аб іх канструкцыі і аб той рабоце, якой яно павінна непасрэдна займацца. У шмат якіх раёнах прыступілі да арганізацыі бюро прапаганды, алеж праца гэта разгорнута яшчэ недастаткова.

Прыкладам можа служыць наступныя вучасткі: пры Магілеўскай вучастковай Пракуратуры і пры Лупалава-Чавускай ня толькі зарганізавана бюро прапаганды, але ўжо прыступлена да практычнай работы. Але-ж у шмат якіх раёнах гэтай працаю зусім яшчэ ня займаюцца.

З такімі адносінамі да гэтай работы з боку раённых работнікаў зусім нельга мірыцца. Пры наяўнасьці ў весцы (і асабліва ва ўмовах бурна працякаючай хвалі калектывізацыі) абвастронай клясавай барацьбы-задачы прававога выхаваньня мас і выхаваньня актыву набывае ў нашай рабоце вялікае значэньне. Юрыдычная несьвядомасьць масы насельніцтва ў весцы, асабліва жанчын, зьўляецца адным з галоўных сродкаў, якая скарыстоўваецца кулаком у клясавай барацьбе.

Пагэтаму, асноўнай мэтай сучаснага артыкула зьяўляецца завастрэньне ўвагі раёных судова-пракурорскіх работнікаў навакол пытаньня прапаганды права і рашучага пералома ў адносінах да гэтага пытаньня. Трэба неадкладна, у адпаведнасьці з разасланай інструкцыяй, стварыць ва ўсіх раёнах Бюро Прапаганды права. Неадкладна разгарнуць шырокім арганізацыйным фронтам прававую работу. Шырэй разгарнуць арганізацыю юрыдычных гурткоў у калгасах і больш увагі ўдзеляць заняткам з народнымі заседацелямі і грамадзкімі абвінаваўцамі. У гарадох і прамысловых раёнах стварыць куткі юрыдычнай дапамогі пры клюбах і лен-кутках, праводзіць адпаведную працу з старшынямі таварыскіх судоў, знаёміць рабочых з апошнімі дырэктывамі па падняцьцю працоўнай дысцыпліны, па барацьбе з цякучасьцю рабочай сілы і г. д.

Калі пытаньнем прававой прапаганды ўдзеліць належную ўвагу, дык тут непачаты край работы. Галоўнае-ўмець увязваць гэту работу з патрабаваньнямі працякаючых кампаній і не адставаць ад жыцьця.

Каб на далейшы час была магчымасьць абменяцца вопытам работы трэба пытаньні прававой прапаганды шырока асьвятляць на старонках друку, у прыватнасьці старонках „Бюлетэня НКЮ".

Больш масавасьці ў пытаньнях прапаганды права, больш ініцыятывы і ўвагі мясцовых работнікаў, зьўляецца задаткам таму, што ў гэтай справе сапраўды адбудзецца зрух і што яна займе належнае месца ў нашай рабоце.

**З. Рохлін.**

## Праявы бюракратызму і цяганіны ў працы нарсуду гор. Гомелю.

**(Па матар'ялах абсьледаваньня)**

Аднэй з аснаўных задач пастаўленых Партыей і Сав. Уладай перад Народнымі Судамі зьяўляецца барацьба з бюракратызмам і цяганінай ў дзяржаўным і каапэрацыйным апараце. З гэтага зразумела ,што ў першую чаргу павінен быць ізжыты бюракратызм і цяганіна ў самых Нарсудох з тым каб стаць здольным выканаць ускладзеныя на іх задачы Партыей і Сав. Уладай.

Аднак да гэтага часу ў працы паасобных Нарсудоўназіраюцца праявы бюракратызму і цяганіны, асабліва гэта выяўлена пры абсьледаваньні працы Нарсудоў гор. Гомелю.

Амаль што ва ўсіх Нарсудах гор. Гомелю, як сыстэма, існуе наступны парадак разгляду спраў:

Пасьля сканчэньня судагаварэньня па справам прызначаным да слуханьня на ўвесь дзень бакам вусна абвяшчаецца: „Рашэньні сёньня ня будуць вынесены, а за вынікамі па справам можэце прыйсьці праз некалькі дзён" і на гэтым судовае паседжаньне зачыняецца. Рашэньні па заслуханым справам пішуцца адзінаасобна нарсудзьдзёй у свабодны час праз 3-4 а часам і больш дзён, без удзелу народных засядачоў, якія ўжо потым прыходзяць ў суд іх падпісваць. Такім чынам парушаецца прынцып публічнага агалашэньня пастаноўленых судом рашэньняў, і каллегіяльнасьць разгляду спраў іскавога характару.(174 і 176 арт. арт. ГПК).

Зацікаўленыя па справе асобы вымушанца прыходзіць па некалькі разоў у суд спраўляцас-аб выніках, а нарзасядачы занятыя па сваей панаўной працы на вытворчасьці ці ва ўстанове аць вінны адрывацца ад сваёй работы, каб падпісцца рашэньні па заслуханым справам, чаму маюра-выпадкі,калі да часу паступленьня касскаргі рашэньні нарзасядачамі яшчэ не падпісаны, і справы ляжаць не адасланымі ў касінстанцыю.

Гэты недапушчальны від бюракратызму і парушэньне рэвалюцыйнай законнасьці-зьяўляецца недапушчальным у нашым апараце і павінен быць зараз-жа ізжыт.

Побач з гэтым маецца і цяганіна ў народных судох, кя вынік не належнай падрыхтоўцы спраў слуханьня і дарэмнага іх адкладваньня, прыкладамі чаму могуць служыць наступныя факты

а) Справа па іску камгаса да Шаршаткіна аб 191 р. 03 кап. паступіўшая ў нарсуд 2-га вучастку 27/III-30 г. прызначалася да слуханьня 5 разоў і ўвесь час дарэмна адкладвазася, а ледзь на 6-й раз справа прыпынена 4 XI30 г. такім чынам справа цягнулася больш 7-месяцаў.

б) Справа па хадатайніцтву аб выдачы пасьведчаньня аб праве на спадчыну прызначалася к слуханьню 19/IX-30 г. ў тэй дзень не вы ашана а ў справе маецца пратакол ў якім азначана; „з прычыны няяўкі нарзасядачоў судпаседжаньне сорвана", між тым як нарсудзьдзі добра вядома што гэтакія справы вырашаюцца адзінаасобна нарсудзьдзёй без ўдзелу нарзасядачоў.

в) Справа па хадайніцтву гр. Івановіч аб праве на спадчыну знаходзілася ў вытвару нарсуда 3-га вучастку з 12/VI-27 г. па 2/XI-30 г.(3 гады і 7 мес.)

г) Справа па іску Касяковай да свайго былога мужа аб аліментах цягнулася ў нарсудзе 4-га вучастку 1 год і 2 мес.

д) Па справе па абвінавачаньню Альтшулера па 250 арт. КК 28/IV 30 г. вынесена пастанова нарсудом 5 вучастку аб передачы справы праз Бабруйскі Акрсуд у нарсуд гор. Рагачова, алеж справа да гэтага часу ляжыць ў судзе няскончанай.

е) Крымінальная справа па 251 арт. кк, якая падлягала спыненьню па амністыі ад 10/VII-30 г. прызначалася 3 разы да слуханьня і дагэтуль не спынена.

ж) Справа па абв. Школьнікава па 240 арт. КК прызначалася да слуханьня 30/IX 30 г., і з прычыны таго, што абвінавачаны непаўналетні, нарсудом 5-га вучастку справа адкладзена для высьвятленьня сапраўднага ўзросту абвінавачанага, а канцэлярыя суду 4/X 30 г. абвяшчае зусім праз крым. вышук розшук абвінавачанага.

з) Заява Турковай Вольгі аб аліментах, паступіўшая ў нарсуд 5-га вуч. 2/XI-30 г., ляжыць не заведзенай, але-ж на заяве маецца рэзалюцыя нарсудзьдзі; „справу слухаць ўне чаргі".

Магчыма было прывесьці яшчэ шэраг прыкладаў, але-ж лічу, што і прыведзяныя факты яскрава сьведчаць аб наяўнасьці цяганіны ў нарсудох гор. Гомелю.

Вынікам гэтай цяганіны зьяўляецца тое, што тэрмін праходжаньня спраў у паасобных нарсудох, асабліва ў нарсудзе І-га вуч. (яўр. нац. камэры) і нарсудзе 2 га вуч. —марудны, ў прыватнасьці справы аб службовых сацыяльна-небясьпечных дзеяньнях і справы аб алімэнтах.

50% усіх спраў пра службовыя сацыяльна-небясьпечныя дзеяньні знаходзіліся ў вытворчасьці на працягу 3-х месяцаў і болей ў нарсудзе І-га вуч. і 33%—у нарсудзе 2-га вуч., зусім зразумела, што палітычны эфэкт ад іх нязначны.

Справы аб алімэнтах знаходзіліся ў вытворчасьці да 2-х месяцаў і болей ў нарсудзе 1-га вуч.—29,2%, ў нарсудзе 2-га вуч.—25% і ў нарсудзе 5-га вуч. - 22%.

Маючыяся моманты бюракратызму і цяганіны ў нарсудох гор. Гомелю зьяўляюцца вынікам адсутнасьці сталай сувязі нарсудоў з рабочай масай і адсутнасьці рабочага кантролю. Каб зьнішчыць гэтыя недахопы нарсудам неабходна заразжа прыняць меры да арганізацыі і ажыцьцяўленьня рабочага кантролю, што дасьць магчымасьць ізжыць бюракратызм і цяганіну ў сваім апараце.

**А. С. Фрэйдлінг.**

## Пра барацьбу з таемнай перапрацоўкай скурсыравіны

**(кадушніцтвам)**

Згодна загаду Наркамгандлю і ВСНГ БССР за 20 жніўня 1930 г. (Сав. Бел. № 201, за 30/VIII-30 г.) і пазьнейшых дырэктыў Наркамгандлю, дадзеных на падставе пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 9 кастрычніка 1930 г., катэгарычна забаронена перапрацоўка ўсіх відаў скуранай сыравіны на тэрыторыі БССР, усім прыватным асобам, калгасам, саўгасам і працкамунам, як для сваіх ўласных патрэб, так і у парадку давальчэства.

У сувязі з гэтай забаронай, паводле цыркуляра Наркамгандлю за 17/XII-30 г. у 25 раёнах БССР арганізуюцца арцелі гарбароў з мясцовых саматужнікаў, якія арцелі і маюць толькі права перапрацоўкі аўчыны, як атрымліваемай у плянавым парадку ад „Саюзскр"у, так і ў парадку давальчэства, г. зн. ад паасобных грамадзян.

У тых-жа раёнах дзе такіх арцеляў гарбароў няма, і калі завоз гатовай скуры ў гэтыя раёны ня можа задаволіць патрэбы насельніцтва, памянёныя арцелі з дазволу РВК могуць арганізоўвацца. Саматужная-жа перапрацоўка сваей ці давальчаскай скурсыравіны і ў гэтых раёнах не дазваляецца.

Таму, асобы, якія дома, таемна перапрацоўваюць скурсыравіну (кадушнікі) павінны прыцягвацца да адказнасьці як за таемнае адчыненьне гарбарнага саматужнага прадпрыемства-ў першы раз у адміністрацыйным парадку паводле абавязковых пастаноў РВК (З.З. БССР 1929г. №11, арт, 59,п.7), а ў другі раз—у крымінальным парадку паводле арт. 152 Крымінальнага Кодэксу.

Адначасова трэба зьвярнуць увагу на наступнае:

Каб пазбавіцца адказнасьці, некаторыя саматужнікі-гарбары не бяруць да сябе давальніцкай скурсыравіны для перапрацоўкі, але ходзяць па хатах і там таемна перапрацоўваюць альбо інструктуюць сялян як перапрацоўваць. Дзякуючы гэтым „Хадзячым інстуктарам" скурсыравіна асядае ў вёсцы і калі перапрацоўваецца, дык зусім дрэнна і ў досыць антысанітарных умовах. Таму пры выяўленьні такіх асоб, трэба прымушаць іх выбіраць патэнт.

Трэба таксама адрозьніваць сушку скурсыравіны ад перапрацоўкі яе, бо калі селянін сушыць скуру проста дзеля яе захаваньня ад псаваньня, а не для перапрацоўкі, ён адказнасьці не падлягае. У такіх выпадках толькі загатоўшчыкі скурсыравіны і групы дапамогі загатоўкам павінны прыняць меры каб гэтыя скуры здаваліся-б загатоўчым арганізацыям.

Калі выкрыта патаемнае прадпрыемства, г.зн. саматужная перапрацоўка скурсыравіны, і вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці, на скуры накладаецца арышт і пра іх лёс (г.зн. каму яны павінны быць перададзены) абавязкова павінна быць указана ці ў пастанове адміністрацыйнага органу ці ў прыгаворы нарсуду, ў залежнасьці ад таго хто вырашаў справу.

## У галіне заканадаўства.

Як вядома, ў зьвязку з ліквідацыяй акруг і акруговых судоў, 5-га верасьня 1930 г. ЦВК і СНК БССР была прынята пастанова „пра зьмену падсуднасьці грамадзянскіх і крымінальных спраў і падсьледзтвеннасьці крымінальных спраў" (З. З. БССР 1930 г. № 34, п. 218).

Паказаная вышэй пастанова, разьмеркаваўшы падсуднасьць грамадзянскіх і крымінальных спраў, не закранула аднак пытаньня пра парадак абскарджаньня судовых пастаноў. Гэты прабел запаўняе распрацаваны НКЮ праэкт пастановы ЦВК і СНК БССР пра зьмену парадку абскарджаньня прысудаў і рашэньняў народных судоў.

Гэты праэкт, прыняты ЦВК і СНК БССР 25/XII-1930 г. і апублікаваны ў газэце „Савецкая Беларусь" № 303-30 г., устанаўляе агульнае правіла аб тым, што прысуды і рашэньні народных судоў могуць быць абскарджаны ў Вярхоўны Суд. Падаваемыя на пастановы народнага суду скаргі называюцца рэвізыйнымі, а не касацыйнымі, бо, атрымаўшы такую скаргу, Вярхоўны Суд павінен перагледзець (абрэвізаваць) усю справу, а ня спы-

няцца толькі на тых довадах, якія паказаны скаргнікам.

З гэтага агульнага правіла ўстанаўляюцца тры выняткі: па справах крымінальных, працоўных і агульна-грамадзянскіх.

Прысуды па **крымінальных** справах не падлягаюць абскарджаньню, калі ў якасьці меры сацыяльнай абароны прысудам назначана пазбаўленьне волі альбо прымусовыя работы на тэрмін да 3-х месяцаў, забарона займацца той ці іншай дзейнасьцю альбо промыслам, грамадзкае ганьбаваньне, перасьцярога, альбо грашовы штраф да 100 р.

Рашэньні па **працоўных справах** не пераглядаюцца ў рэвізыйным парадку, калі сума грашовага іску аб заработнай плаце не перавышае месячнага заработку работніка і калі пры гэтым гэтыя іскі не зьвязаны са звальненьнем (значыцца, тут пакідаецца ў сіле п. а арт. 278-а ГПК).

І нарэшце, не падлягаюць абскарджаньню ў рэвізыйным парадку рашэньні нарсуду па іншых **грашовыхісках**, калі разьмер іску не перавышае 100 р., апроч рашэньняў паісках аб алімэнтах, па якіх рэвізыйнае абскарджаньне дазваляецца незалежна ад сумы іску.

Вышэйпаказаны закон значна зьмяняе існуючае палажэньне. З прычыны гэтага судзьдзі пры абвяшчэньні прысудаў і рашэньняў павінны паказваць сторанам парадак абскарджаньня, г. зн. кожны раз паказваць, ці падлягае данны прысуд ці даннае рашэньне абскарджаньню.

* * *

25-га ж сьнежня г. г. ЦВК і СНК БССР была прынята вельмі важная пастанова аб правілах спагнаньня судамі адзінай судовай пошліны. На падставе Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну (З. З. Саюзу ССР 1930 г. № 46 арт. 476) зьмяняецца разьдзел IV Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу.

Гэты закон, апублікаваны ў № 303 газэты „Савецкая Беларусь".

* * *

Па прапанове Вярхоўнага Суду ў заканадаўчыя органы ўнесен праэкт пастановы пра зьмену арт. 98 ГПК у тым сэнсе, што суд мае права спыніць назаўсёды справу, калі на суд не зьявіліся абедзьве стораны, якім павесткі ўручаны, калі ні адна з старон не прасіла аб разглядзе справы ў яе адсутнасьці і калі суд прызнае прычыны няяўкі няважнымі.

* * *

Жыцьцё паказвае, што цяпер вельмі часта памяшканьні ў муніцыпалізаваных дамох занятых кватарантамі патрэбны для грамадзкіх патрэб, напрыклад, для сталоўкі, школы і г. д.

Каб даць магчымасьць здаволіць такія патрэбы распрацаваны праэкт пра дапаўненьне пастановы ад 19.II 1927 г. „аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з займаных імі памяшканьняў ў гарадох і мястэчках" асобным правілам аб тым што ў муніцыпалізаваных дамох дазваляецца ў судовым парадку адбіраць кватэры для грамадзкіх патрэб, але пры абавязковай умове, **што ўстанова ці арганізацыя, для якой кватэра патрэбна, павінна даць высяляемаму адпаведную кватэру.**

* * *

Яшчэ два гады таму назад было паднята пытаньне аб ліквідацыі інстытуту судовых выканаўцаў, але да гэтага часу гэтае пытаньне ў заканадаўчым парадку ня вырашана, хоць фактычна ў некаторых раёнах судовыя выканаўцы ўжо ня існуюць.

Прымаючы пад увагу, што ў арт. 19 „Асноў судабудаўніцтва Саюзу ССР і саюзных рэспублік" прадугледжаны судовыя выканаўцы, НКЮ зноў узьняў пытаньне пра зьмену гэтага артыкулу „Асноў" у тым сэнсу, што саюзным рэспублікам надаецца права ўсе функцыі судовых выканаўцаў перадаваць органам міліцыі за выключэньнем тых выканальных дзействаў, якія і цяпер выконваюцца сельсаветамі.

З прычыны таго, што праводзіцца рэканструкцыя міліцыі, пытаньне аб ліквідацыі інстытуту судавыканаўцаў пакуль што застаецца нявырашаным.

**В.**

## Адказы на запытаньні з месц.

### 1. Пытаньні.

1) Ці маюць права на ўтрыманьне ад сваіх родных братоў, сясьцёр, у якіх ёсьць выстарчальныя сродкі, поўналетнія непрацаздольныя браты і сёстры ў тым выпадку, калі ў іх няма іншай радні?

2) Ці можна спагнаць алімэнты з адказчыка на дзіця ў тым выпадку, калі прыпадаючая адказчыку доля маёмасьці ў сялянскім двары выключана са складу гаспадаркі да якой належыць адказчык, у парадку 71 арт. Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы, і перадана ісьціцы на выхаваньне дзіцяці, але пераданых сродкаў ісьціцы не хапае на ўтрыманьне дзіцяці да яго поўналецьця?

3) Ці застаецца адказчык членам сельскага двара пасьля выдзелу з гаспадаркі гэтага двара ў парадку 71 арт. Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы часьці маёмасьці, якая прыпадае на долю адказчыка?

(Запытаньне нарсудзьдзі Касьцюковіцкага раёну).

### Адказы:

1) Паводле дакладнага сэнсу 67 арт. Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы толькі непоўналетнія і ня маючыя сродкаў для існаваньня браты і сёстры маюць права на ўтрыманьне ад сваіх родных братоў і сясьцёр, у якіх есьць выстарчальныя сродкі а поўналетнія браты і сестры такога права ня маюць. Поўналетнія дзеці маюць права на ўтрыманьне толькі ад бацькоў сваіх і то толькі ў тым выпадку, калі яны ня маюць сродкаў для існаваньня з прычыны непрацаздольнасьці або беспрацоўя і калі бацькі іх паводле свайго маемаснага становішча могуць даваць ім падтрыманьне (63 арт. Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы).

2) У выпадку выдзелу ў парадку 71 арт. Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы са складу гаспадаркі сялянскага двара часьці маемасьці якая прыпадае на долю адказчыка, і передачы гэтай чесьця ісьціцы на выхаваньне дзіцяці, алімэнты на дзіця могуць спаганяцца з асабістых сродкаў адказчыка і на далейшы час, калі пераданых ісьціцы сродкаў на ўтрыманьне дзіцяці не хапае, паколькі іск аб алімэнтах выцякае з асабістых, а ня маемасных праваадносін старон.

3) Што датычыць пытаньня аб тым, ці застаецца адказчык членам сельска-гаспадарчага двара пасьля выдзелу з гаспадаркі гэтага двара

ў парадку 71 арт. Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы часьці маемасьці, якая прыпадае на долю адказчыка, то гэтае пытаньне, калі адказчык паранейшаму жыве і працуе ў тым жа двары і сельскім саветам ня зроблена ўстаноўленай рэгістрацыі аб зьмене складу двара, згодна п. „к“ арт. 24 Палаж. пра сельскія саветы (Зб. Зак. БССР 1930 г. № 23, паст. 153), павінна вырашацца ў станоўчым сэнсе, бо выдзел долі маемасьці сялянскага двара ў парадку памянёнага 71 арт. Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы, члены якога паранейшаму разам карыстаюцца зямлею, не зьяўляецца яшчэ падзелам гаспадаркі гэтага двара.

(Растлумач. НКЮ № 317н/109 за 10/XII-1930 г. Нарсудзьдзі Касьцюковіцкага раёну).

## 2. Пытаньні:

Ці спаганяецца адзіная дзяржаўная пошліна і канцэлярскі збор за выдаваныя судом па грамадзкіх справах копіі рашэньняў суду і выканаўчыя лісты ў сувязі з выданьнем Урадам СССР Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну, паколькі ў гэтым Палажэньні пра спаганьне якіх-небудзь збораў за выдаваемыя судом памянёныя дакуманты нічога не гаварыцца?

(Запытаньне Нарсуду Жлобінскага раёну).

### Адказ:

Паколькі пастановаю ЦВК і СНК СССР за 2/IX-30 г. „пра падатковую рэформу“ спагнаньне гэрбавага збору па ўсіх наогул падлягаючых аплаце такім зборам дакумантах з 1/X-30 г. скасавана (чаму і арт. 40 ГПК у сучасны момант трэба лічыць страціўшым сілу), а ўведзеным у дзейства Палажэньнем пра адзіную дзяржаўную пошліну (Зб. Зак. СССР 1930 г. № 46, арт. 480) спагнаньне гэтай пошліны за выдаваемыя судом копіі рашэньняў, выканаўчыя лісты альбо тыя ці іншыя даведкі не прадугледжана, то для спагнаньня адзінай дзяржаўнай пошліны за выдаваемыя судом вышэйпаказаны дакуманты няма ніякае падставы, тым больш, што згодна п. 17 ч. II памянёнай пастановы ЦВК і СНК „пра падатковую рэформу“ (Зб. Зак. БССР 1930 г. № 46, арт. 476) скасавана спагнаньне і збораў за выканаўчыя дзействы, службовых асоб па выкананьню судовых пастаноў.

На падставе той-жа пастановы ЦВК і СНК СССР „пра падатковую рэформу“ і згодна паведамленьня НКФ СССР за 23/X-30 г. канцэлярскі збор, які спаганяўся судом паводле арт. 41 ГПК, у сучасны момант таксама трэба лічыць скасаваным, як гэта растлумачана ўсім нарсудам у цыркуляры НКФ і НКЮ БССР за 15/XI-1930 г. № 47.

(Растлумач. НКЮ № 328н/109 за 14/XII-1930 г. Нарсуду Жлобінскага раёну).

## 3. Пытаньні:

1) Ці можа сельсавет, які праводзіць рэгістрацыю актаў грамадзянскага стану, адмовіць у рэгістрацыі скасаваньня шлюбу кулачцы ў тым выпадку, калі апошняя жадае зрабіць гэта з мэтамі пазбавіцца высылкі з кулацкаю сям'ею?

2) Ці цягне за сабою скасаваньне шлюбу ў паказаным выпадку ня рызнаньне гэтай кулачкі членам пад ягаючага ліквідацыі кулацкага двара?

(Запытаньне Вучастковага Пракурора па Камарынскаму раёну за № 3-н ад 22/XII—1930 г.).

### Адказы:

1) Згодна простага сэнсу 28 і 29 арт. Код Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы для рэгістрацыі скасаваньня шлюбу пры жыцьці супругаў у адпаведным органе ЗАГС; досыць толькі жаданьня і заявы аб этым хоць-бы аднаго з супругаў і зусім не патрэбны з боку супругаў ніякія доказы немагчымасьці у далейшым сумеснага жыцьця.

Вось-чаму ў адзначаным выпадку орган ЗАГСУ ня мае ніякай законнай падставы адмаўляць у рэгістрацыі скасаваньня шлюбу.

2) Што-ж датычыць другога пытаньня, адносна таго, ці цягне за сабою скасаваньне шлюбу з боку кулачкі, з мэтаю пазбавіцца высылкі з кулацкай сям„ёй з наступным іскам аб выдзеле маемасьці (як гэта часта бывае), няпрызнаньне гэтай кулачкі членам падлягаючага ліквідацыі кулацкага двара, то гэтае пытаньне павінна вырашацца ў тым сэнсе, што скасаваньне шлюбу само па сабе не зьяўляецца яшчэ падставаю для выключэньня таго ці іншага разьведзенага супруга з складу сельскага двара, паколькі ўсякія зьмены ў складзе членаў сельскага двара павінны быць зарэгістраваны сельсаветам у асобна ўстановленым парадку згодна п. „к“ арт. 24 Палаж. пра сельскія саветы (Зб. Зак. БССР 1930 г. № 23 п. 153).

Пры гэтым трэба мець, між іншым, на увазе, што раскулачваньне датычыць усіх членаў кулацкага двара незалежна ад зьмен у сямейным становішчы, як гэта досыць дакладна растлумачана Пленумам Вярхсуду БССР у пастанове яго за 25 лют. 1930 г. (прат. № 77, п. 3), дзе апроч таго, і паказана таксама, што пытаньні аб высяленьні і перасяленьні кулакоў вырашаюцца ня ў судовым, а ў адміністрацыйным парадку.

(Растлумач. НКЮ № 349н/109 за 27/XII-30 году—Вучастковаму Пракурору па Камарынскаму раёну).

# СЬПІС

## важнейшых законаў, выданых ЦВК і СНК СССР і БССР за сьнежань 1930 г.

### Законы Саюзу ССР.

1. „Аб мерах супроць драпежніцкага забою жывёлы“ (З. З. СССР 1930 г. № 57 п. 598).

2. „Аб адказнасьці за парушэньне правіл аб вывазе, увозе, перасылцы і пераводзе за граніцу і з за граніцы валютных і фондавых каштоўнасьцяў“. (З. З. СССР 1930 г. № 57 п. 600).

3. „Аб чыгуначных лінейных судох“ З. З. СССР 1930 г. № 57 п. 601).

4. „Аб паявых узносах у спажывецкія таварыствы“ (З. З. СССР 1930 г. № п. 623).

5. „Аб зьмене асноў судабудаўніцтва Саюзу СССР і саюзных рэспублік з прычыны ліквідацыі акруг“. (З. З. СССР 1930 г. № 59, п. 625).

6. „Аб парадку забесьпячэньня сямей вайскоўцаў, прызваных у кадры Рабоча-Сялянскай Чырвонай Армії і ў пераменны склад тэрыторыяльных часьцей Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі“. (З. З. СССР 1930 г. № 60 п. 638).

7. „Аб ліквідацыі Народных Камісарыятаў Унутраных Спраў саюзных і аўтаномных рэспублік“ (З. З. СССР 1930 г. № 60 п. 640).

8. „Аб найме і разьмяркаваньні рабочай сілы і змаганьні з цякучасьцю рабочай сілы“ (З. З. СССР 1930 г. № 60 п. 641).

**Законы БССР.**

9. „Аб ліквідацыі НКУС БССР (Сав. Бел. № 297, за 23/VII-30 г.).

10. „Аб забароне забою коняй (Сав. Бел. № 299, за 26/XII-30 г.).

11. „Аб зьмене разьдзелу IV. Грамадзянскага Процэсуальнага Кодэксу (Сав. Бел. № 301, за 28/XII-30 г.).

12. „Аб зьмене парадку абскарджаньня прысудоў і пастаноў народных судоў“. (Сав. Бел. № 303, за 30/XII-30 г.).

Адказны рэдактар **С. Мар'ясіна**.

Галоўлітбел № 117. Зак. № 38.—Тыраж 500 экз. Друкарня Менскага Акрвыканкому.